*www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 63 (4315)**

10 жніўня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

## Чым пахне «справа БЕЛТА»?

Такой атакі на медыі, як цяпер, у звязку са "справай БЕЛТА", не было даўно. Што здарылася? Сацыяльныя сеткі загаманілі: мо на носе выбары, рэферэндум? Мо з эканомікай яшчэ горай, чым мы думаем? Мо танкі Пуціна ўжо заводзяць матory? А мо "свае" вырашылі дыскрэдытаваць такім чынам Лукашэнку?

Як зазначаюць незалежныя юрысты, фармальныя падставы, каб разгарнуць такія маштабныя следчыя дзеянні, выглядаюць хісткa, крымінальны артыкул (несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі, які нанёс "істотную шкоду") шыецца, на іх погляд, белымі ніткамі. Найхутчэй, што ніхто серверы БЕЛТА не ламаў, а проста тыя паролі ад падпіснога кантэнту кепска захоўваліся і ў журналісцкай тусоўцы былі сакрэтам палішынеля. І ў чым шкода ад распаўсюджвання інфармацыі дзяржаўнага агенцтва? Гэта ж не КДБ, яно, інфармацыйнае агенцтва, не трымае пад замком дзяржаўных сакрэтаў.

У любым выпадку доўгіяператрусы ў офісах tut.by і БелаПАН/Naviny.by, яшчэ некалькіх СМІ, у кватэрах, затрыманне шэрагу рэдактараў і журналістаў выглядаюць захадамі неадэкватна суровымі. Нашто паралізаваць працу рэдакцый? Хіба тыя нашы калегі, што апынуліся за кратамі, – нейкія бандыты, тэрарысты? Маглі б за мяжу ўцячы з казёнными матэрыяламі пра вываз гною на палі?

Прычым уладам было загадзя зразумела, што Захад, з якім Мінск зацікаўлены наладзіць адносіны, успрыме тыя ператрусы і затрыманні як атаку на свабоду слова. І што "справа БЕЛТА" ў вачах многіх назіральнікаў, каментатараў абавязкова набудзе палітычную афарбоўку. Што і адбылося: у абарону журналістаў выступілі Брусель, Вашынгтон, Савет Еўропы ды іншыя міжнародныя арганізацыі. І гэта хваля будзе мацнець.

Так што адмашка на дзеянні сілавікоў, пэўна ж, давалася на вельмі высокім узроўні. Нехта, трэба думаць, вырашыў, што ёсць інтарэсы важнейшыя, чым імідж у вачах заходнікаў.

Сёння шмат канспіралагічных версій і каментарыяў, чаму адбываецца гэты наезд на медыі. Мая версія простая. Так, канкрэтная адмашка магла давацца ў тым ліку і пад уплывам эмоцый. Напрыклад, разззлавала тое, што недзяржаўныя рэсурсы сталі раскручваць нейкую непрыемную тэму – кшталту здароўя афіцыйнага лідара, перспектыў транзіту ўлады. Але ў прынцыпе стаўленне ўлады да прэсы вынікае з прыроды аўтарытарнага рэжыму, які хоча кантраляваць плыні інфармацыі, каб не было нейкіх забурэнняў і сістэма не захісталася. Таму раз-пораз знаходзяць зачэпкі, каб даць недзяржаўным медыям па галаве. І "справу БЕЛТА", мяркуючы па ўсім, рыхтавалі з халоднай галавой, педантычна, не дзень і не два.

Мы добра памятаем шматгадовую эпапею: і адмовы друкаваць газеты, і суды над імі, і дзікія штрафы, і ператрусы ў рэдакцыях з канфіскацыяй аргтэхнікі пасля Плошчы-2010 – храналогію рэпрэсій можна доўжыць. Гэта гульня заўжды ішла ў адны вароты – на каго паказваў начальніцкі палец, тых і пачыналі чыхвосціць "государевы люди", знаходзячы мізэрную зачэпку: во тут няправільныя выхадныя звесткі, а тут пахне паклёпам самі ведаеце на каго, а яшчэ ў вас няма акрэдытацыі... Насамрэч жа і самі законы крывыя, ды яшчэ і трактуюць іх крыва.

Так што ў гэтым сэнсе – нічога прынцыпова новага. Хіба што асаблівую агіду выклікае шчыраванне пэўных дзеячаў з дзяржаўных СМІ, якія нават не ўтойваюць, што рады бедам "нячэсных" журналістаў.

У прынцыпе ж хворая сама сістэма, якая імкнецца да медыйнай манаполіі. У свой час цяперашняя ўлада амаль што разграміла незалежную друкаваную прэсу ("Народная Воля" – ці не апошні буйны бастыён), наклала лапу на радыё, тэлебачанне – і думала, што справа зроблена, медыйная манаполія забяспечана. Што ўжо схапілі бога за бараду.

А тут – расквітнеў гэты незразумелы, дэцэнтралізаваны, няўлоўны інтэрнэт. Пішуць што хочуць, і акурат пра тое, пра што дзяржаўныя СМІ ні гу-гу. Распавядаюць пра падкопы Масквы, друкуюць сатырычныя мемы ды фотажабы, малююць дыскамфортныя для кіроўных вярхоў сцэнарыі, ставяць рубам пытанні, якія могуць палітызаваць шараговага беларуса, падштурхнуць яго да выказвання прэтэнзій уладзе.

Карацей, некага кілбасіць ды плюшчыць ад таго, што не ўсё схоплена. Адсюль – гэта спецаперацыя, для якой знайшлі смеху вартыя зачэпкі.

Натуральна, ніводзін чыноўнік не скажа, што вось мы іх б'ём за палітыку, каб баяліся. Спрабуюць скарміць Еўропе няўклюдныя версіі: тут жа чысты крымінал, маўляў, не трэба красці інфармацыю, за якую хто-ніхто выкладвае грошы.

"Справа БЕЛТА" выклікае асацыяцыі з леташняй справай "Белага легіёна", якую ўрэшце спусцілі на тармазах, збіўшы хвалю "дармаедскіх" пратэстаў. Тое ж можа адбыцца і зараз. Даваць журналістам рэальныя тэрміны – гэта вельмі і вельмі сапсуе нармалізацыю стасункаў з Еўропай, але можна цягнуць рызіну, трымаць незалежныя медыі на кручку, узнімаць градус страху ў журналісцкай супольнасці, каб мацней працавала самацэнзура.

Падкрэслю, што адначасова наверсе баяцца расійскага чынніка. Гэта мо галоўная прычына цяперашняй нервовасці, у выніку якой трапляе пад раздачу і прэса. Але ж менавіта недзяржаўныя беларускія рэсурсы найперш і трымаюць фронт супраць імперскай прапаганды, падступнай экспансіі "русского мира". На добры лад маладая незалежная дзяржава мусіла б усяляк падтрымліваць, развіваць нацыянальную медыйную прастору. А цяперашняя ўлада гэту прастору зачышчае, стэрылізуе. Бо, лічу, страх, што прачнецца ўласнае грамадства, пераважвае.

Прычым б'юць па прафесійных медыях, якія проста робяць сваю справу: інфармуюць, аналізуюць, даюць розныя, у тым ліку і калючыя, меркаванні. Гэта не пад нос вялікім шышкам у любой краіне, але ў дэмакратыях у вярхоў рукі кароткія, каб так трушчыць СМІ. Але ў нас да дэмакратыі далёка, і таму недзяржаўным журналістам будзе пастаянна патрэбна як асабістая мужнасць, так і грамадская падтрымка. Калі беларусы будуць маўчаць у анучку, у іх адбяруць і рэшту крыніц незалежнай інфармацыі.

**РЭАКЦЫЯ**

Віктар КАЗЬКО, пісьменнік,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я.Коласа:

## «Змаганне з журналістамі – гэта барацьба з ветракамі»



– Ператрусы ў рэдакцыях і затрыманні журналістаў – чарговае паляванне на ведзьмаў. Відаць, некаму спатрэбілася акцыя застрашэння СМІ, але карысці яна дасць – нуль. Таму што задушыць прагрэс немагчыма. Змаганне з журналістамі – гэта "донкіхоцтва". Тое самае, што весці барацьбу з ветракамі.

У той жа час я не выключаю, што некаторыя прадстаўнікі СМІ і насамрэч маглі браць інфармацыю без аплаты, але ж у дзяржаве, дзе многія крадуць, не можа быць і абсалютна чэсных журналістаў. Магчыма, нехта і карыстаўся чужымі паролямі, але ж ці можна так арыштоўваць людзей? Усё гэта нагадвае вяртанне да старых рэпрэсіўных часоў, гэта проста здзек! Улады прымаюць абсалютна неадпаведныя меры! Для чаго гэта?

Але ва ўсёй гэтай гісторыі мяне адно цешыць. Улады дзесяцігоддзямі спрабавалі задушыць незалежную прэсу, але ж не атрымалася. І зараз не атрымаецца, бо гэта проста немагчыма.

Алена АНІСІМ,
дэпутат Палаты прадстаўнікоў:

## «Што, раскрылі групоўку прафесіянальных хакераў?»



– Я лічу, што гэтая сітуацыя не павінна мець месца і тым больш у тым выглядзе, якая ёсць зараз. Маю на ўвазе, што журналістаў на некалькі сутак кінулі за краты. Нават калі яны і здзейснілі правапарушэнне, то што патрабавала такіх жорсткіх і неадэкватных дзеянняў?

Калі ўважліва паглядзець на тое, што творыцца ў апошнія дні, то складваецца ўражанне, што сілавікі раскрылі нейкую ледзь не тэрарыстычную групоўку, прафесіянальных хакераў, якія ўзломвалі базы дадзеных з сакрэтнымі кодамі ды пераводзілі на свае рахункі мільёны долараў. Але ж усяго гэтага няма. Затое ёсць маштабнасць, якую следчыя хочуць надаць гэтай справе. Таму ўсю гэтую сітуацыю я адназначна расцэньваю як наступленне на свабоду слова.

**– Вы як дэпутат будзеце прадпрымаць нейкія меры, каб дапамагчы затрыманым журналістам?**

– Зараз я ў адпачынку, але калі спатрэбіцца мая дапамога, то зраблю ўсё магчымае.

Васіль ПАЛЯКОЎ,
старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

## «Гэта пачатак вялікай палітычнай гульні…»



Сітуацыю з затрыманнямі незалежных журналістаў у размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" пракаментаваў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

– Калі я, як і ўсе, даведаўся пра ператрусы ў рэдакцыях БелаПАН і tut.by, то першае, пра што падумалася: гэта чарговая хваля наступлення на незалежныя сродкі масавай інфармацыі. Для мяне асабіста гэта ў нейкім сэнсе стала поўнай нечаканасцю. Патлумачу чаму. На вялікі жаль, мы ў Беларусі прывыклі, што ў Беларусі пераследуюць незалежныя – але больш апазіцыйныя – СМІ. У гэтым жа выпадку пад удар трапілі рэдакцыі тых СМІ, якія, на маю думку, прытрымліваюцца нейтралітэту. Мяркую, што "заява БЕЛТА" – гэта толькі падстава, а насамрэч за ўсім гэтым стаіць нейкая стратэгія беларускіх улад. І гэта толькі адзін крок у яе ажыццяўленні. Для чаго ён быў патрэбны? Думаю, што адказ на гэтае пытанне стане вядомы пазней. Не так проста зараз сказаць, што канкрэтна задумала ўлада. Удар нанесены па буйнейшых інтэрнэт-парталах Беларусі. Мне падаецца, што гэта пачатак вялікай палітычнай гульні.

**– Што з гэтай нагоды будзе рабіць ваша партыя? Як вы збіраецеся бараніць журналістаў? І ці будзеце гэта рабіць увогуле?**

– Так, АГП прыняла заяву, у якой выказала рашучы пратэст супраць рэпрэсій на адрас незалежных беларускіх СМІ. АГП разглядае гэтыя захады як зачыстку інфармацыйнай прасторы напярэдадні маючых адбыцца неўзабаве прэзідэнцкай і парламенцкай выбарчых кампаній. Аб'яднаная грамадзянская партыя патрабуе неадкладна вызваліць усіх затрыманых і спыніць пераслед незалежных СМІ, журналістаў і блогераў.

**– Можа быць, варта чакаць ад вашай партыі больш рашучых дзеянняў? Мітынгаў, пікетаў…**

– Так. У межах правацэнтрысцкай кааліцыі, у склад якой уваходзіць АГП, будзем абмяркоўваць гэтае пытанне, узгадняць план дзеянняў. Таму што тут адназначна патрэбна рэакцыя грамадзянскай супольнасці, бо калі змаўчаць, то ўлада можа зайсці занадта далёка…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**Учора пад вечар за кратамі яшчэ знаходзіліся журналісты Марына Золатава, Ганна Ермачонак з інфармацыйнага партала tut.by, Таццяна Каравянкова з БелаПАН, Паўлюк Быкоўскі з Deutshe Welle, Аляксей Жукаў з тыднёвіка "Беларусы і рынак". Нявысветлены быў лёс галоўнага рэдактара БелаПАН Ірыны Леўшынай.**

**Няўжо і сёння яны не ўбачаць свабоды?**

**СОЛИДАРНОСТЬ**

## Дипломаты Евросоюза и США посетили офисы БелаПАН и tut.by

Дипломаты Представительства Евросоюза в Беларуси и Посольства США посетили в среду офисы БелаПАН и интернет-ресурса tut.by, журналисты которых задержаны по «делу БЕЛТА».

*«Глава Представительства Европейского Союза Андреа Викторин, посол Великобритании Фиона Гибб, посол Румынии Виорел Мосану и заместители глав посольств Литвы, Чехии и Швеции посетили офисы tut.by и БелаПАН, чтобы узнать больше про ситуацию с задержаниями их журналистов»*, – говорится в сообщении представительства Евросоюза в Facebook.

*«Уважение основных прав и свобод, в том числе свободы выражения и свободы СМИ, должно быть сохранено. ЕС будет продолжать внимательно следить за этой ситуацией, в том числе через представительство ЕС в Минске»*, – отмечается в сообщении.

В свою очередь в МИД Беларуси заявили, что задержание сотрудников БелаПАН и tut.by *«не лежит в политической плоскости и не имеет никакого отношения к вопросам свободы СМИ либо журналистской деятельности в стране»*.

**(interfax.by.)**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

Галіна УЛАСІК:

## «Яны выграблі ўсё..»

*Учора днём стала вядома, што на волю выйшла затрыманая па "справе БЕЛТА" супрацоўніца партала tut.by Галіна Уласік. Адразу пасля вызвалення журналістка адказала на пытанні калег.*




– Я нічога не магу гаварыць пра матэрыялы справы, адзінае, што магу сказаць, артыкул, паводле якога затрымліваюць журналістаў, не прадугледжвае заключэння людзей пад варту.

**– Ці можаце вы пакідаць горад на час расследавання?**

– Нічога мне на гэты конт не сказалі, ніякіх спецыяльных падпісак у мяне не бралі.

**– Як з вамі абыходзіліся ў ізалятары на Акрэсціна? Як паводзілі сябе следчыя, што працуюць над гэтай справай?**

– Усе паводзілі сябе вельмі карэктна, скажам так. У ізалятары да нас таксама добра ставіліся, цікавіліся, як здароўе. Думаю, з-за таго, што мы журналісты. У камеры на пяцярых нас было трое.

**– Ці бачылі вы іншых затрыманых журналістаў?**

– Так, бачыла – Таццяну Каравянкову (*супрацоўніцу БелаПАН. – **Аўт.***) і нашу Аню Ермачонак. Аднак знаходзіліся мы не разам. Акрамя таго, чула, як у калідоры ІЧУ называліся прозвішчы калег. У дзень майго вызвалення, калі везлі з Акрэсціна ў галоўнае ўпраўленне Следчага камітэта, бачыла Марыну Золатаву.

**– Ці можаце вы распавесці, як адбываўся ператрус перад вашым затрыманнем?**

– Яны выграблі ўсё – старыя мабільнікі, нават з пабітымі экранамі. Забралі сім-карты, флэшкі… Па вызваленні вярнулі амаль усё, акрамя ноўтбука і рабочага тэлефона. А сам вобшук распачаўся з таго, што ў шэсць гадзін ранку ў дзверы пазваніў міліцыянер і сказаў, што прыйшоў наконт крадзяжу, які нібыта адбыўся ў пад'ездзе. Калі я адчыніла, то ў кватэру ўвайшлі каля сямі чалавек, сам вобшук працягваўся дзве гадзіны.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

**СТАЛО ИЗВЕСТНО**

## Завершено расследование уголовного дела о хищениях в ОАО «Бабушкина крынка»

По делу проходят главный инженер предприятия, его супруга и 30-летний знакомый. Они, по версии следствия, незаконно завладели денежными средствами на сумму более 416 тысяч рублей.

Установлено, что главный инженер предприятия запрещал приобретать товары у организаций, с которыми ранее общество тесно сотрудничало и которые были готовы поставлять товар по действующим отпускным ценам. Вместо этого сотрудников в период с 2013-го по 2017 год заставляли закупать товары по необоснованно завышенным ценам у коммерческих организаций.

Фигурантов дела обвиняют по ч.4 ст.210 (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное организованной группой в особо крупном размере) УК.

Уголовное дело передано прокурору для направления в суд.

**(ej.)**



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# «Выходя из себя, определи сначала дальнейший маршрут»

Председателя Партии БНФ Григория Костусева обвинили в предательстве. Возглавляемая им партия объявила о прекращении своего участия в вахте возле печально известного «ресторана на костях», выстроенного в непосредственной близости от Куропат.

Тот факт, что Партия БНФ объявила о своем уходе из акции без консультаций с товарищами по борьбе, с моей точки зрения, ее и в самом деле не украшает. Если партия ввязалась в серьезную акцию и до сих пор согласовывала в той или иной степени свои шаги, то и сейчас надо было бы хотя бы предупредить: мы уходим. Этого сделано не было. А еще лучше – идти до конца вместе со всеми. Но Костусев есть Костусев, человек по-разному проявляет себя.

В то же время меня смущают и некоторые другие обстоятельства. До сих пор ничего реального по разруливанию ситуации в Куропатах никто не предложил. Озвученный план Павла Северинца «стоять до победного конца» вкупе с формулировкой этого самого «победного конца» как «и пусть они переносят свой ресторан в другое место» заведомо невыполним. Земля выкуплена, объект на ней стоит. И законных оснований для изъятия этой собственности без компенсации, скорее всего, нет. А компенсацию государство не предлагает, и никто другой не имеет возможности ее предложить. Как же можно настаивать на неисполнимом плане?

При этом понятно: идеологический ущерб объекту общепита уже нанесен весьма ощутимый. Против обедов в нем высказались журналисты, депутаты, артисты, дипломаты, священнослужители, бизнесмены самых разных национальностей и вероисповеданий. По моему мнению, после того, как вахта наконец разойдется и у владельцев объекта исчезнет повод присылать туда имитирующих голод «титушек» (так в Украине называют наемников, изображающих общественность), питаться там будет еще меньше народа, чем сейчас. И с этой точки зрения владельцы должны наконец понять, что проиграли.

Вопрос в другом – как могут выиграть те, кто пикетирует сегодня этот самый объект? Пока они не выиграли – именно в силу того, что попросту не в состоянии обозначить, что они готовы счесть своей победой.

А проблема серьезная. В кабинете одного из деканов моего родного Гродненского университета, когда я там учился, висел плакат с надписью: «Выходя из себя, определи сначала дальнейший маршрут». Очень правильный, с моей точки зрения, плакат. Нужно понимать, куда ты идешь и в состоянии ли ты туда дойти. Иначе сам путь превращается в дорогу в никуда.

Дойти до «изгнания» пресловутого «Поедем поедим», повторюсь, пикетчики не могут. Нет у них возможностей для этого.

Правда, есть еще одно обстоятельство.

Пикет вызван, как мне кажется, не появлением ресторана, а полной уверенностью в том, что на нем процесс наступления на память о жертвах репрессий, воплощением которой и являются Куропаты, не остановится. Все заявления, что конкурс на утверждение проекта мемориала вот-вот состоится, что государство его воздвигнет, что совладелец уже осточертевшего всем ресторана, понявший наконец, как глубоко он влез в известное место, частично строительство мемориала профинансирует, остаются всего лишь заявлениями, не более того. И до тех пор, пока мемориал действительно не будет построен, никто не поверит в то, что решение о его строительстве окончательное. Ибо говорили об этом мемориале все, включая главу государства, но дело так и осталось на уровне «бла-бла-бла».

Почему же организаторы пикета до сих пор не озвучили это свое требование? Именно потому, что они прекрасно понимают, что имеют дело с «кидалами»: им в сто двадцать пятый раз пообещают, что мемориал будет построен, но если они уйдут с вахты – процесс принятия решения вновь затянется, а потом вместо мемориала им предложат еще один ресторан, только уже на другой опушке урочища.

Если власть действительно хочет избежать хронического противостояния на зыбкой границе между Куропатами и собственностью господина Зайдеса, ей нужно как можно скорее построить этот мемориал. Как бы она ни трактовала, кто именно там похоронен. Раз похоронены убитые люди, значит, нужно почтить их память. Вы считаете, что людей расстреливали фашисты и их пособники? Почтите память расстрелянных фашистами. Потому что иначе ваша логика очевидна: там расстреливали мирных граждан фашисты, а значит, ничто не мешает нам там жрать, жарить шашлыки и распевать песни под гитару. Интересно, власть не ощущает ущербности этой позиции, на сторону которой она вдруг встала – причем де-факто сразу после открытия мемориала в Тростенце?

Поставьте мемориал. Вахта сразу снимется. А господин Зайдес после этого пусть думает сам, как распорядиться своей собственностью, не приносящей прибыли. Это уже будет не наше общее, а всего только его дело. И это, с моей точки зрения, единственно возможный дальнейший маршрут для всех сторон в этом конфликте.

АКЦЫЯ

## На кнігу пра Зінаіду Бандарэнка збіраюць грошы

*У наступным годзе народная артыстка Беларусі, зорка савецкага тэлеэкрана Зінаіда Бандарэнка адзначыць 80-гадовы юбілей.*

Да гэтай даты рыхтуецца кніга пра былую тэлевядучую – з фотаздымкамі з яе сямейнага архіва і ўспамінамі.

Напрыканцы жніўня стартуе кампанія па зборы сродкаў на выданне мемуараў.

ЧУЛІ?

## Дырэктара агракамбіната «Паўднёвы» затрымалі за хабар

*Віктар Крышнеў узначаліў гаспадарку ў студзені 2018 года.*

Паводле інфармацыі сайта «Сильные новости», папярэднік Крышнева быў асуджаны за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі.

«Паўднёвы» – адзін з найбуйнейшых агракамбінатаў Гомельскай вобласці. Паводле інфармацыі абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні, у «Паўднёвы» ўваходзіць 7413 гектараў угоддзяў. На свінакомплексе ўтрымліваецца больш за 27 тысяч свіней і 5 тысяч кароў і быкоў. Тут дзейнічае адкормачная ферма, цэхі забою і перапрацоўкі мяса.

Падрабязнасцяў справы Крышнева пакуль няма.

ЗДАРЭННІ

## У Талачыне 4-гадовая дзяўчынка адкусіла ртутны градуснік

*На шчасце, ні шкло, ні ртуць у арганізм не трапілі.*




44-гадовая жыхарка Талачына вырашыла вымераць тэмпературу дачцэ. Яна на некалькі хвілін пакінула дзіця без нагляду, а вярнуўшыся, выявіла, што дзяўчынка разбіла градуснік.

Дачка сказала маме, што магла адкусіць кончык ртутнага градусніка. Пасля гэтага жанчына выклікала брыгаду хуткай медыцынскай дапамогі.

Абследаванне не паказала наяўнасці ў страваводзе дзяўчынкі слядоў шкла і ртуці. Аднак дзяўчынку шпіталізавалі з-за прастуды, перадае vitebsk.cc.

АДУКАЦЫЯ

# Каго якія экзамены чакаюць...

*Да пачатку новага навучальнага года яшчэ некалькі тыдняў, а ўжо вядома, якія іспыты чакаюць школьнікаў.*



Дзевяцікласнікі будуць здаваць экзамены па

– беларускай і рускай мовах (пісьмова), матэматыцы.

Адзінаццацікласнікі па

– матэматыцы, замежнай мове, гісторыі Беларусі, па беларускай ці рускай мове (на выбар).

Тыя школьнікі, якія навучаюцца на мовах нацыянальных меншасцяў (польскай або літоўскай), будуць здаваць экзамены па гэтых мовах і пасля дзявятага, і пасля адзінаццатага класа.

Выпускнікі школ і гімназій, якія маюць статус установы мастацтваў, акрамя экзаменаў па агульнаадукацыйных прадметах абавязаны здаць экзамен па адным з творчых прадметаў (на выбар).

**Мікалай ЛІТВІНЧУК.**

КРЫМІНАЛ

## Закапалі больш за 147 тысяч бляшанак тушонкі

Супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнага кантролю даўно не сутыкаліся з такім негатыўным фактам. У Салігорскім раёне больш за 147 тысяч бляшанак сапсаваных мясных кансерваў па ўказанні службовых асоб мясакамбіната аказаліся закапанымі ў зямлю на глыбіню амаль восем метраў. Такім чынам, паводле версіі кантралёраў, прадпрыемству нанесены ўрон прыкладна ў 297 тысяч рублёў.

“Народная Воля” будзе сачыць за развіццём гэтай крымінальнай справы.

**Вольга СІДАРЭНКА.**

НУ І НУ!

## У Чувашыі вырабляюць малакапрадукты пад маркай «Беларускія традыцыі»

Гісторыю, якая адбылася з ім у Маскве, апісаў на сваёй старонцы ў “Фэйсбуку” **Ігар Данілаў:**

«Вырашыў я ў Маскве кефіру купіць – смагу прагнаць. Абраў прадукт з гандлёвай маркай «Беларускія традыцыі» – як быццам падтрымаць айчыннага вытворцу.

Адпіў, але смаку беларускіх традыцый не адчуў.

Павярнуў бутэльку і даведаўся, што вытворца гэтага напою – ААТ «Ядрынмалако» з Рэспублікі Чувашыя.

Такія вось традыцыі дружбы!

У Чувашыі (і не толькі) ведаюць-разумеюць, што давер расійцаў да беларускіх прадуктаў і тавараў вельмі высокі!

Ніякі «Россельхознадзор» з гэтай любоўю да беларускага нічога зрабіць не можа!»

**(NN.)**

ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## З АГП выключылі Дзмітрыя Кавалгіна

31-гадовы грамадскі актывіст Дзмітрый Кавалгін напісаў на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку», што 7 жніўня ён быў адлічаны з шэрагаў Аб’яднанай грамадзянскай партыі.

«З фармулёўкай «за дыскрэдытацыю». Праўда, у чым яна заключалася, я так і не зразумеў. Гучалі “выдатныя” аргументы: я, аказваецца, нічога не рабіў, а тое, што рабіў, – вельмі дрэнна», – напісаў Кавалгін.

Кавалгін раней узначальваў «Маладых дэмакратаў», маладзёжнае крыло АГП. Актыўна ўдзельнічаў у абароне Курапатаў, а таксама раёнаў Мінска ад забудовы. У лютым у інтэрв’ю «Беларускаму партызану» ён раскрытыкаваў кіраўніка АГП Анатоля Лябедзьку.

Новы старшыня АГП Васіль Палякоў у каментарыі адзначыў, што ў Кавалгіна меўся даўні канфлікт з кіраўніцтвам «праз інтэрв’ю, у якім ён прайшоўся па партыі». Паводле слоў Палякова, Кавалгіна выключылі з фармулёўкай «нанясенне шкоды рэпутацыі партыі».

Васіль Палякоў адзначае, што канфлікт атрымалася б замяць, калі б у гэтыя дні Кавалгін не патрабаваў пратаколы пасяджэнняў Палітрады АГП за апошнія тры гады.

У “Фэйсбуку” Кавалгін адзначае, што сам Палякоў не выступаў за яго выключэнне з партыі. Але Палітрада «пераважнай большасцю галасоў» прыняла іншае рашэнне.

**(NN.)**

ПЕРСОНА

## Петр Климук стал почетным членом Академии наук Беларуси

*Пару недель назад прославленный летчик-космонавт получил соответствующий диплом из рук председателя президиума НАН Беларуси **Владимира Гусакова,** хотя избрали его почетным членом Национальной академии наук еще почти год назад.*



*«В России я получил много разных дипломов, но я белорус, здесь родился, и для меня очень почетно получить такое звание именно от белорусской Академии наук*, – сказал Климук. – *Это высокая честь!*»

Кстати, Петр Климук приедет в Минск в начале сентября, когда в Минске состоится 31-й Международный конгресс Ассоциации участников космических полетов.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Куда электроэнергию девать будем?

Начав строить белорусскую АЭС, правительство так и не дало ответ на вопрос, куда мы будем девать будущие явные излишки электроэнергии. А элементарное правило маркетинга гласит: главное не произвести, а продать. По сути, вся надежда была на экспорт большой части производимой электроэнергии. Но вот куда и кому – вопрос, судя по всему, решался по наитию. До последнего времени Беларусь импортировала электроэнергию из России и Украины. Следовательно, заранее было известно, что этим ближайшим соседям наша электроэнергия не нужна. Расчет, очевидно, был на западный и северо-западный векторы – Польшу и Балтию. А плана «Б», как показало время, не предусмотрели. А ведь специалистами предлагалась модернизация существующих ГРЭС и ТЭЦ.

Литва однозначно запротестовала против атомного проекта: БелАЭС возводится всего в 50 километрах от ее столицы – Вильнюса. Еще свеж чернобыльский синдром. Захоронение радиоактивных отходов АЭС – вопрос до сих пор никем не решенный. То, что их будет забирать на утилизацию Россия, – бабушка надвое гадала. Расчет белорусских властей на то, что Литва закрывает старую, еще советского проекта, Игналинскую АЭС и остро будет нуждаться в электроэнергии, не оправдался. Литовцы наотрез отказались покупать ее на БелАЭС. Так же поступили и поляки. Страны Балтии и Польша поставили цель полностью отсоединиться от потребления электроэнергии с восточного направления, которое досталось им со времен Советского Союза, и встроиться целиком в энергосистему ЕС. Тем более что эта энергосистема использует отличные от советской физические принципы производства и распределения электричества. Как говорилось в известном советском фильме, «у них гранаты не той системы».

Согласно планам, первый блок АЭС мощностью 1194 МВт должен быть введен в 2019 году, второй такой же мощности – в июле 2020 года. С начала подготовки к реализации проекта назывались различные оценки его стоимости, которые корректировались в примерно 9 млрд долларов – 6 млрд на строительство энергоблоков и 3 млрд на создание инфраструктуры (жилого городка, подъездных путей, линий электропередач и т.п.). Проект реализуется за счет российского кредита. В ходе визита Путина в Минск было объявлено о подписании соглашения о сотрудничестве в строительстве АЭС на кредитную сумму уже в 10 млрд долларов. Срок окупаемости может составить 15–20 лет. При экономическом обосновании строительства ожидалось, что электропотребление в Беларуси к 2020 году вырастет до 47 млрд кВт·ч. Позднее этот прогноз был снижен до 39,9 млрд кВт·ч. В 2017 году потребление электроэнергии в Беларуси составило без малого 37 млрд кВт·ч, в том числе 2,7 кВт·ч – импорт. В текущем году страна отказалась от импорта. Два реактора БелАЭС в 2020 году будут производить 18 млрд кВт·ч, то есть атомная энергетика займет в общем энергобалансе 45%.

6 августа правительство своим постановлением №579 внесло изменение в комплексный план развития электроэнергетической сферы до 2025 года с учетом ввода БелАЭС. Планируемый объем увеличения использования электроэнергии к 2026 году оценивается в 3,38 млрд кВт·ч, в том числе: 1,78 млрд кВт·ч – в результате установки электрокотлов в организациях, входящих в систему «Белэнерго», и 1,6 млрд кВт·ч – в результате реализации мероприятий межотраслевого характера. Речь идет о техническом переоснащении производства и запуске новых промышленных мощностей на промышленных и нефтеперерабатывающих заводах, электрификации участков дорог и освещении магистралей, а также о мероприятиях в системе ЖКХ. Еще ранее вице-премьер В.Семашко заявлял о переоборудовании в жилых домах газовых плит в электрические, естественно, новые жилые дома будут проектироваться исключительно с электрическим оборудованием. Им заявлено даже о грядущем выпуске СП «БелДжи» электромобилей.

На реализацию этих мер потребуется порядка 7,7 млрд рублей, то есть 3,5 млрд долларов, включая бюджетные средства. Получается, что недосмотр правительства в маркетинговых вопросах экономико-политического толка выливается в цепную реакцию последующих больших трат, которые лягут на плечи налогоплательщиков. Стоит ли вести разговоры о том, что с пуском БелАЭС подешевеет 1 кВт·ч электроэнергии для населения? Тем более что мы переходим на ее 100%-ную оплату. Подсчитано, что АЭС позволит отказаться от 5 млрд кубометров в год потребляемого российского газа и тем самым уменьшить энергетическую зависимость от России. Но увеличится та же зависимость в потреблении ядерного топлива. Не следует забывать и о такой «мелочи», как многомиллиардный российский кредит, который предстоит погашать в основном молодому поколению белорусов.

Несмотря на заявления российской стороны, что строящаяся атомная электростанция типа АЭС-2006 абсолютно безопасная, не стоит обольщаться. Таких АЭС не существует – указанный проект нигде еще не эксплуатируется. Поэтому на сегодня отсутствует так называемый референтный реактор. Подобные проекты российским «Атомстройэкспортом» еще только строятся в ряде стран. За исключением Франции, большинство развитых государств либо сворачивают после Чернобыля строительство АЭС, либо, как Германия и Швеция, ликвидируют под ноль имеющиеся АЭС, несмотря на многомиллиардные траты на их закрытие и утилизацию. Вся Германия давно в шахматном порядке заставлена «ветряками», Швеция переходит на масштабное использование электроэнергии ГЭС. Строят новые АЭС такие развивающиеся страны, как Индия, Китай, естественно, Россия. После того, что случилось в советском Чернобыле, японской Фукусиме, их руководство имеет короткую память и по-прежнему пытается решить энергетические проблемы, как они думают, дешево и сердито. Но в этих странах, как правило, огромные территории. В крайнем случае – есть куда эвакуироваться. А белорусы второго «крайнего случая» не переживут. Посмотрите на розу ветров: Островец в этом плане самое «удачное место» для возведения АЭС из всех предлагавшихся…

РЭГІЁН

# Цяжкае выжыванне

*Прадпрымальнік **Віктар Ламека** з невялічкага райцэнтра Зэльва Гродзенскай вобласці распавядае аб тым, як у цяперашніх умовах даводзіцца весці свой маленькі бізнес.*

### «У людзей няма грошай…»

У Віктара Ламекі самы звычайны бізнес – розьнічны гандаль абуткам і адзеннем. Ён распачаў яго яшчэ ў 1998 годзе, потым быў невялікі перапынак, калі ад'язджаў працаваць у Польшчу, а з 2001 года – зноў у роднай Зэльве на мясцовым рынку. Праўда, тут з былых 50 гандлёвых кропак засталіся толькі 18.

…Рынак у цэнтры Зэльвы невялікі і ціхі. Некалькі шапікаў, рэдкія пакупнікі, ніякага табе шумнага гандлю.

*«Праблемы ў прадпрымальнікаў пачаліся недзе з 2008 года,* – згадвае Ламека. – *Памятаю, на пачатку двухтысячных я толькі абутку ў дзень прадаваў не менш за пяць пар, а зараз калі за некалькі дзён адну прадам, то гэта ўжо лічыцца вялікім поспехам».*

Пакупніцкая здольнасць у раённых гарадках рэзка ўпала. *«У Зэльве я ведаю практычна ўсіх, хто чым дыхае, многія даўно згубілі працу і нічога не могуць знайсці. І як такім людзям не паспачуваць?* – задаецца пытаннем прадпрымальнік. – *У мяне туфлі на рынку даражэй за 28 рублёў яшчэ ніхто не купіў…».*

### «У месяц трэба заплаціць дзяржаве каля 300 рублёў…»

Віктар Ламека кажа, што беларуская дзяржава не спяшаецца палегчыць жыццё прадпрымальнікаў. *«Ужо на пачатку месяца, перад тым як я пачну працу, мушу заплаціць адзіны падатак – 75 рублёў, плюс за арэнду гандлёвага месца – амаль 100 рублёў, у фонд сацыяльнай абароны – прыкладна столькі ж. Дадайце сюды плату за электраэнергію, прыбіральня на рынку таксама платная. Агулам атрымліваецца каля 300 рублёў».*

Прадпрымальнік кажа, што не кожны месяц у яго выходзіць зарабіць столькі, колькі ён павінен заплаціць дзяржаве.

*«Ратуе тое, што мае бацькі атрымліваюць пенсію і жонка працуе на дзяржаўнай працы і мае хоць і невялікі, але стабільны заробак»,* – кажа Ламека.

### Адзінае, што змянілася, – праверак стала менш

Паводле слоў спадара Віктара, ягоная сям'я, нягледзячы на тое, што яны з жонкай працуюць, жыве больш чым сціпла. Маўляў, не купляем мэблю, бытавую тэхніку, не бываем на курортах, думаем толькі, як пракарміцца і адправіць дзяцей у школу.

*«Я стараюся не сядзець на адным месцы ў Зэльве, а езджу ў розныя дні гандляваць у іншыя райцэнтры: Свіслач, Бераставіцу, Шчучын»,* – распавядае Ламека.

У кожным райцэнтры ёсць «базарны дзень», калі на рынак з'язджаюцца людзі з усяго рэгіёна. Можна нешта прадаць, але ў прынцыпе сітуацыю гэта не мяняе.

Прадпрымальнік кажа, што даўно хоча змяніць гэтую працу на нешта іншае. Але тут жа заўважае, што пакуль нармальных варыянтаў не прадбачыцца. А на заробкі за мяжу ездзіць позна, бо ўжо 50 гадоў, ды яшчэ сям'я, двое дзяцей.

Пра стаўленне дзяржавы да прадпрымальнікаў Ламека кажа, што, на яго думку, нічога новага за апошнія гады не змянілася. Праўда, апошнім часам праверак стала менш, але гэта толькі да пары, пакуль ты не трапляеш у поле зроку розных кантралюючых органаў.

Віктар Ламека неаднойчы судзіўся з дзяржаўнымі органамі, у прыватнасці з падатковай інспекцыяй, і на сабе добра адчуў, як працуе дзяржаўная машына ў адносінах да прадпрымальніка.

*«На мяне ў падатковай склалі некалькі фальшывых дакументаў, нібыта я некалькі гадоў не плаціў падаткі за дзяйнасць, якую я насамрэч не вёў,* – згадвае Ламека. – *У мяне без суда забіралі з хаты маёмасць, аўтамабіль. Праўда, праз суд мне ўдалося даказаць, што дакументы фальшывыя, і маёмасць вярнулі».*

І тут жа прадпрымальнік дадае, што ніхто з адказных работнікаў падатковай не панёс за гэта пакаранне, а некаторыя нават пайшлі на павышэнне ў вобласць.

*«Уявіце, што раней на рынку прыходзілі рознага кшталту праверяючыя і чапляліся да прадпрымальнікаў нават за тое, што на ігалках няма інструкцыі, як іх прымяняць. Выпісвалі за гэта штрафы»,* – згадвае Ламека.

### «У мяне няма аптымізму, але я веру ў тое, што ёсць праўда»

Я пацікавіўся ў спадара Ламекі, ці памятае ён знакамітае выказванне прэзідэнта Лукашэнкі аб тым, што прыйдзе час і ён пацісне руку апошняму дробнаму прадпрымальніку. І ў сувязі з гэтым спытаўся: ці хутка яму нехта з мясцовых чыноўнікаў пацісне руку на развітанне?

Ламека ўсміхнуўся, памаўчаў, а потым стаў сур'ёзна разважаць. Маўляў, ён не аптыміст адносна сучаснага становішча прадпрымальнікаў у краіне, але ведае, што існуюць эканамічныя законы і тая праўда жыцця, якую нікому не ўдасца перакрэсліць. *«Нават калі з'явіцца адмысловы ўказ аб забароне прадпрымальніцтва ў Беларусі, прадпрымальнікі ўжо не знікнуць. Яны былі яшчэ ў часы Савецкага Саюза. Іх садзілі, праследавалі, але яны былі. Ад уціску прадпрымальніцтва губляе толькі дзяржава, усе мы, паколькі змяншаецца паступленне падаткаў у казну. Гэта ўжо вядомая рэч. Праўда, на жаль, не ўсім».*

Віктар Ламека не ведае, колькі часу яшчэ здолее займацца прадпрымальніцтвам, але ён перакананы, што Лукашэнка не дачакаецца таго часу, калі пацісне руку апошняму дробнаму прадпрымальніку.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**
*г.Зэльва.*

МНЕНИЕ

# Спасет ли сельхоздоходяг новый указ президента?



**СПРАВКА**

*По итогам 2016 г. убыточными (без учета господдержки) были 71,8 процента сельхозорганизаций, а 2017-го – «всего» 61,3 процента. Удельный вес просроченной кредиторской задолженности в общей сумме кредиторской задолженности достигал 34,9 процента, в задолженности по кредитам и займам – 10,6, а по итогам 2017 г. – 35,7 и 8,1 процента соответственно. После реструктуризации части долгов перед банками и бюджетом по итогам пяти месяцев текущего года в Беларуси убыточными (без учета господдержки) были 60,7 процента сельхозорганизаций, удельный вес просроченной кредиторской задолженности в общей сумме кредиторской задолженности достигал 34,9 процента, в задолженности по кредитам и займам – 10,6, а по итогам 2017 г. – 35,7 и 8,1 процента соответственно.*

Не секрет: многие сельхозпредприятия в долгах как в шелках. В казне на их спасение денег нет. А потому проект очередного указа о финансовом оздоровлении АПК предлагает оригинальный рецепт: спасать «доходяг» за счет кредиторов. В компаниях, сотрудничающих с сельхозорганизациями, переполох.

В то же время официальные должностные лица рисуют благостную перспективу. *«Хороший инструментарий для того, чтобы вовлекать в оборот неэффективные хозяйства»,* – сказал журналистам вице-премьер **Михаил Русый.** Но на самом деле предлагаемые меры могут оказаться не столько разумной стратегией достижения договоренности с кредиторами, сколько набором средств, чтобы заставить их согласиться на реструктуризацию долгов. Предполагается, что кредиторов обяжут выбирать один из вариантов:

1) конвертация долгов в акции, дополнительно выпускаемые сельхозорганизациями;

2) предоставление отсрочки на 3 года + рассрочка на 5 лет при условии осуществления текущих платежей;

3) мировое соглашение об изменении порядка исполнения денежного обязательства;

4) эмиссия обл- и райисполкомами ценных бумаг для перевода задолженности на местные органы власти или передачи в ОАО «Агентство по управлению активами».

Вероятно, кредиторов гораздо больше устроила бы просто оплата долга – если не деньгами, то хотя бы сельхозпродукцией. Но такой вариант в проекте не упоминается. Вице-премьер уверяет, что *«это никакое не списание»*. Но и платить в ближайшем обозримом будущем некоторые предприятия не будут. Напротив, государство создаст все условия, чтобы они могли еще долго не исполнять свои обязательства.

Если согласия с кредиторами сельхозорганизации не достигнут, то они все равно получат отсрочку на три года с последующей рассрочкой на пять лет. Для этого надо лишь иметь «результативный бизнес-план». А если его не будет, комиссия облисполкома примет решение о нецелесообразности дальнейшего функционирования предприятия с направлением его в суд в общеустановленном порядке. Учитывая, что поставщики при таком раскладе будут болтаться в самом хвосте очереди кредиторов, шансы что-то получить с ликвидируемого хозяйства будут менее чем мизерными.

Планируется, что председатели райисполкомов совместно с руководителями неплатежеспособных организаций обеспечат разработку и реализацию эффективного бизнес-плана с возможными механизмами досудебного оздоровления. При этом предусмотрена их защита на предмет делового риска. Это забавная оговорка. Получается, что бизнес-план даст сельхозорганизациям неоспоримое право на восемь лет отсрочить уплату своих долгов. А что, если потом они заявят кредиторам: дескать, неувязочка вышла, вмешался, мол, деловой риск, запланированных показателей достичь не удалось, так что не видать вам остатков своих денег.

На восемь лет, отведенных на финансовое оздоровление, приостанавливается начисление процентов, неустойки, пеней за исключением процентов банков и ОАО «Агентство по управлению активами». То есть в любом случае не удастся взыскать неустойку со злостных неплательщиков и хоть отчасти компенсировать урон от долгов, сроки погашения которых и так давно истекли. Заодно банкам авторы проекта любезно позволяют снизить действующую процентную ставку до 1,5 процента. Вероятно, навязываемые мировые соглашения тоже сведутся к тем же отсрочкам-рассрочкам плюс отказ от взыскания неустойки.

Трудно не сбиться со счета, вспоминая этапы финансового оздоровления белорусского села. Первой эпохальной попыткой вытащить из болота убыточные колхозы можно считать их «раздачу на перевоспитание» промышленным предприятиям и банкам по Указу от 19.03.2004 №138. Затем колхозы (точнее сельскохозяйственные производственные кооперативы – СПК) массово преобразовывали в акционерные общества и коммунальные унитарные предприятия по Указу от 17.07.2014 №349. За 2,5 года количество СПК значительно сократилось, немалая часть акций отходила государству, а все колхозы, у которых стоимость чистых активов оказалась меньше паевого фонда, становились коммунальными унитарными предприятиями. Таких было немало. В итоге удельный вес сельхозорганизаций, целиком или частично принадлежащих государству, вырос с 49,4 процента до 71,1. Так что формальное исчезновение наследия сталинской коллективизации оказалось фактическим закреплением над селом контроля государства. Но смена вывесок, финансовые преференции, отсрочка и рассрочка долгов ничего не изменили. Долги и убытки продолжали расти, а частных инвесторов, готовых впрячься в аграрный воз, не находилось. Было создано Агентство по управлению активами, в которое начался активный «слив» безнадежных долгов сельского хозяйства. Но общей картины это тоже не меняло.

Не помогли и меры досудебного оздоровления 323 неплатежеспособных сельхозорганизаций, предусмотренные Указом от 4.07.2016 №253. Впрочем, 40 удалось куда-либо пристроить. А из остальных 283 в 48 платежеспособность восстановлена, в 78 она улучшилась, а у 157 осталась прежней «или даже ухудшилась», как признал глава Минсельхозпрода **Леонид Заяц.** Если добавить 102 безнадежных предприятия, которые разрешили банкротить указ №253, ситуация в АПК выглядит печально. Кстати, этим указом также предусматривалась передача убыточных сельхозорганизаций в аренду или доверительное управление, а также их продажа целиком или пакетами акций на более-менее льготных условиях. Но до сих пор добровольцев, желающих воспользоваться такими возможностями, не видно.

Новый указ станет признанием, что белорусский АПК целиком представляет собой единый токсичный актив, связываться с которым смертельно опасно для любой компании. Ведь предлагаемые сейчас решения – действительно *«никакое не списание»*, но не в том смысле, который предполагает правительство. Это дефолт для части АПК в особо изощренной форме. Государство-собственник неплатежеспособных предприятий не собирается брать на себя ответственность за их долги. Вместо этого оно попросту лишает кредиторов возможности получить в обозримом будущем обратно свои деньги, принуждая принимать условия реструктуризации долгов, что в любом случае повлечет колоссальные убытки – тайные и явные. Это, на мой взгляд, натуральный грабеж.

Кредиторам останется только брать в счет долга акции сельхозорганизаций, на что раньше почти никто не соглашался добровольно. Теперь же глава Минсельхозпрода на полном серьезе заявляет, что акции – это *«лучше, чем ничего»*. Дескать, все-таки будет шанс когда-нибудь получить дивиденды.

Чиновники не желают понимать, что конвертация задолженности в акции по большому счету ничего не меняет. Для частника мало радости стать миноритарным акционером предприятия – фактического банкрота, не имеющим ни реальной возможности влиять на принимаемые решения, ни надежды получить дивиденды хотя бы через 5–10 лет. У таких акций очень мало шансов вырасти за эти годы в цене, и найти на них покупателей можно разве что чудом. Так что *«ничего»* в акционерной упаковке останется таким же *«ничем»*: безнадежным долгом, замаскированным под финансовый актив. При этом от новых собственников по-прежнему будут требовать сохранить профиль работы сельхозорганизаций-должников, выполнить социальные обязательства, сохранить рабочие места.

Кстати, предприятия, поставляющие АПК технику, запчасти, корма и прочую продукцию, уплачивают налоги по факту отгрузки. Таким образом, им приходится кредитовать не только своих покупателей, но и государство. А уж оно-то никаких поблажек и отсрочки по уплате налогов не дает. В результате кредиторы сельхозорганизаций превращаются в должников перед бюджетом. На них сыплются пени, штрафы, аресты счетов. Нарушаются сроки погашения кредитов, растут штрафные проценты и убытки. Таким образом, пока власти пытаются оздоровить АПК, заболевают неплатежеспособностью все вокруг.

Логичным продолжением нового указа было бы предоставление кредиторам сельхозорганизаций аналогичных отсрочек и рассрочек задолженности перед бюджетом, по кредитам госбанков и перед госпредприятиями энергетики. Тоже без процентов и предварительных условий. Можем даже бизнес-планы накатать: как только хозяйства с нами рассчитаются, так сразу и мы с государством произведем расчеты. Это вполне справедливо. Ведь именно указания исполкомовских чиновников у кого почем покупать технику и корма, а затем кому и почем поставлять зерно, мясо, молоко и овощи сделало сельхозорганизации банкротами. Никакой господдержки не хватит, чтобы компенсировать некомпетентность и коррупцию, заложенную в стоимость всех хозяйственных операций в АПК. Как, впрочем, и в иных отраслях, управляемых и контролируемых бюрократией.

Если государство как собственник довело принадлежащие ему сельхозорганизации до дефолта, то оно и должно нести за это субсидиарную ответственность перед бизнесом и обществом. Вместо этого кандидаты на «оздоровление» в ожидании нового указа вообще перестали рассчитываться с кредиторами. А глядя на них, игнорируют свои обязательства и некоторые другие сельхозорганизации. Действительно, зачем платить, если государство позволяет этого не делать? Каждый надеется получить такие же поблажки.

Можно лишь удивляться, как юристы пропустили проект, столь откровенно нарушающий права бизнеса, игнорирующий Конституцию и базовые принципы гражданского законодательства. Как с этим будут мириться парламентарии, Конституционный суд и бизнес-союзы? Зато не приходится удивляться, почему инвесторы стремятся держаться подальше от страны, где ради защиты неплатежеспособных должников государство буквально уничтожает кредиторов, причем в ущерб самому себе.

Что станет за восемь лет с организациями-кредиторами, их работниками и социальными обязательствами, власти пока не беспокоит – пусть частники сами выкручиваются. Но тогда тем придется задуматься: за что они платят налоги, если государство не только не обеспечивает защиту их законных интересов собственников, но и само же их всячески нарушает?..

**Леонид ФРИДКИН,**
**экономист.**

НУ І НУ!

# У Віцебску рыбак злавіў сома амаль на 50 кілаграмаў

*Выцягвалі рыбіну больш за гадзіну.*



Віцябчанін **Вадзім Чайка** змясціў у сацыяльных сетках фота свайго сябра з трафеем – сомам вагой 48 кілаграмаў і 600 грамаў. Вылавілі рыбіну ўначы ў Дзвіне ў межах горада.

*"Мой сябра адмаўляецца размаўляць з гэтай нагоды з журналістамі,* – кажа Вадзім "Народнай Волі". – *Але я ведаю, што на рыбалцы ён быў не адзін, лавілі з берага. У сацыяльных сетках выказваюцца, што рыбіну злавілі браканьерскім спосабам, але гэта няпраўда. Выцягвалі рыбіну больш за гадзіну".*

Некаторыя не паверылі, што такія экзэмпляры сустракаюцца ў Дзвіне, але Вадзім Чайка пацвярджае, што ўсё гэта праўда.

*"Сом сапраўдны,* – дадае ён. – *Яго ўжо падзялілі і часткова з'елі".*

Нагадаем, што ў 2013 годзе Аляксандр Лукашэнка распавёў, што злавіў на Прыпяці сома вагой 57 кілаграмаў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗДАРЭННІ

# У гродзенскім смецці знайшлі газавы пісталет

Зброя была выяўлена на перапрацоўчым прадпрыемстве смецця каля Гродна. Рэвальвер знайшоў адзін з работнікаў прадпрыемства падчас сваёй працоўнай змены. Аб гэтым паведамляе прэс-служба УУС Гродзенскага аблвыканкама.

Паводле інфармацыі прэс-службы, мадэль пісталета – Reck Agent. Ён накіраваны на экспертызу. Міліцыя будзе высвятляць ягоную прыналежнасць і тое, як пісталет патрапіў у смецце.

**Аляксей МІХАЛЕВІЧ.**

